жаль, многія з іх адышлі ў іншасвет – вечная ім памяць. Няма ўжо і маіх бацькоў, Тамаша Якаўлевіча і Аляксандры Пятроўны, шчырых памочнікаў і апекуноў. Колькі адметных, непаўторных слоў пачуў я ад іх! Кожнае новае, прывезенае з вандровак, абмяркоўвалася і толькі з іх згоды ўхвалялася, папаўняла картатэку. Гэтую кнігу я ім і прысвяціў. А штуршком для збірання стала простая жыццёвая сітуацыя, выпадак, здарэнне. Я назіраў за лыжнымі спаборніцтвамі. У Івацэвічы з'ехаліся дзеці з усяго раёна. Сучасны Івацэвіцкі раён, так склалася здаўна, яўна дзеліцца на тры рэгіёны: Косаўшчыну, Быценшчыну і Целяханшчыну. Калі Быценшчына ды Косаўшчына знаходзяцца ў арэале гарадзенска-баранавіцкай дыялектнай групы гаворак, то Целяханшчына – заходнепалескай. Целяханшчына – гэта ўжо палешукі, пачатак Палесся; Быценшчына ды Косаўшчына – ліцвіны, ліцвінская зямля. Вось тады я і пачуў, што адны дзеці лыжныя палкі называлі кіямі, калкамі, вожагамі, а нашы дзеці – апірачкамі. Я здзівіўся, калі гэтае слова не знайшоў у тлумачальным слоўніку беларускай мовы. Раней я падарожнічаў па далёкіх мясцінах, з 1995 года я ўжо не выязджаў за межы нашага раёна. Запісваў усё, што казалася людзьмі, што было яркім, непаўторным. Запісваў нават сны, якія сніліся нашым людзям, назвы ўрочышч, дзе бруіліся крыніцы, дзе ляжалі вялікія камяні-валуны, невядомыя пахаванні, векавыя дрэвы. Дарэчы, камень у Марачоўшчыне, да якога прымацавана мемарыяльная дошка ў памяць аб нараджэнні Тадэвуша Касцюшкі, прывезлі якраз з ваколіц майго Заполля. Гэткім чынам быў сабраны матэрыял на Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны". Вядома, што фразеалагічны склад кожнай мовы вызначае нацыянальную адметнасць народа, раскрывае самабытнасць яго духоўнагаа свету. Фразеалогія пэўнага дыялекта спрыяе пашырэнню і ўзбагачэнню агульнанароднай фразеалогіі.

**У кнізе „Населеныя пункты Івацэвіччыны" у навукова-папулярнай форме разглядаецца гісторыя і сучаснасць кожнага населенага пункта Івацэвіцкага раёна, тлумачацца іх назвы. Кніга ўнікальная, такой у межах нашай краіны няма. Даследаванне змяшчае багаты фактычны, навукова-пазнавальны матэрыял. Раскажыце, дзе Вы знайшлі столькі матэрыялу?**

– Гэта кніга – плён маёй шматгадовай працы ў архівах і кнігасховішчах не толькі Беларусі, але і замежжа. Сабраныя гістарычныя звесткі дапамаглі зазірнуць у далёкае мінулае кожнага населенага пункта Івацэвіччыны. Свае веды пра гісторыю і сучаснасць паселішчаў я пашырыў пад час вандровак па раёну, сустрэч, гутарак з людзьмі. Магчыма, уніклівыя крытыкі і знойдуць у ёй хібы, але, як казалі старажытныя рымляне, „хто зможа, хай зробіць лепей". Адно магу сцвярджаць: у кнізе я пакінуў часцінку свайго сэрца. У архівах і бібліятэках працаваў у час школьных канікул. Гэта цяпер ў архівы цяжка папасці, а ў канцы 1980-х гадоў краязнаўцаў было яшчэ няшмат. Перапісвалі мы дакументы ад рукі. У мяне атрымоўвалася так: вучнёўскі сшытак за дзень. Сілаў маіх хапала на тыдзень – адымалася рука. Каб не траціць час, абедаць не хадзіў – абыходзіўся бутэрбродам. Працаваў ад ранку да вечара. Добрым словам згадваю супрацоўніка акадэмічнай бібліятэкі імя Якуба Коласа Анатоля Паўлавіча Фурса. Я толькі складаў картатэку патрэбных мне дакументаў, а ён ужо рабіў ксеракопіі. Трэба адзначыць, што ў тыя часы добра працаваў міжбібліятэчны абанемент. Не было такога, каб заказаная мною кніга па гісторыі Беларусі не высылалася. Дарэчы, спіс выкарыстанай літаратуры я прывёў у канцы кнігі. І спіс гэты атрымаўся багаты і разнастайны.

**Я чуў, што ў Івацэвіцкім раёне 25 вёсак уганараваны памятнымі шыльдамі, на якіх пазначаны год іх першага ўпамінання ў пісьмовых крыніцах. Раскажыце пра гэту справу падрабязней. А раптам гэтую ідэю падтрымаюць у іншых раёнах Беларусі.**

– Найперш, гэта рабілася з добрай волі кіраўніцтва нашага раёна. Яны знайшлі сродкі для гэтага, заказалі мемарыяльныя дошкі. Памятныя



**Алесь Зайка працаваў некалі і настаўнікам фізкультуры. 1983 г.**

знакі прымацавалі найбольш на валунах – помніках геалагічнай культуры. Апошнім часам у нашым раёне з'явіліся новыя вуліцы, назвы якіх увекавечваюць памяць людзей, што праславілі свой край. Гэта, найперш, вуліца у гонар заснавальнікаў горада Івацэвічы слаўных Іллінічаў, Міхала Казіміра Агінскага, па волі якога пачаў дзейнічаць Агінскі канал, мужнага кіраўніка паўстання 1863-64-га гадоў Кастуся Каліноўскага, дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Івана Грэцкага, вядомага пісьменні-

ка Ярослава Пархуты, заслужаных працаўнікоў сельскай гаспадаркі і прамысловасці.

**У канцы лютага 2015 г. у мінскім выдавецтве „Тэхналогія" выйшла чарговая кніга духоўных скарбаў Косаўшчыны. Яна мае доўгую назву: „Прыказкі і прымаўкі, жарты і каламбуры, прыгаворкі і языкаломкі, вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая, вітанні і зычэнні, ветлівыя і ласкавыя выразы, засцярогі і прысяганні, праклёны і адкляцці, жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі, зневажанні і параўнанні, прыкметы народнага календара з Косаўшчыны". Гэтая кніга, на мой погляд, – першае сістэматызаванае апісанне парэміялагічнага і фразеалагічнага багацця мовы жыхароў аднаго з куткоў Беларусі. Раскажыце, як стваралася гэтая кніга.**

– Пачаў я збіраць матэрыялы да яе яшчэ ў далёкім 1966 годзе, калі вучыўся ў 11-м класе Косаўскай школы. Да мае бабулі Марылі прыходзілі яе таварышкі. Ад іх яшчэ тады я запісаў шмат прыказак, прымавак, песень, жартаў, пажаданняў на вяселлі.

Гэтая кніга цікавая тым, што ў ёй даецца поўная пашпартызацыя: прозвішча і ініцыялы інфарманта, звесткі пра год яго нараджэння, час запісу, месца жыхарства і адміністрацыйная прыналежнасць сялібы. Я ўдзячны маім землякам, што збераглі, захавалі ў маўленні жывое народнае слова. Мяне заўсёды здзіўлялі яркасць і моц іх мастацкага мыслення, уменне выказацца асацыятыўна, вобразна, дасціпна. Усім ім мой шчыры дзякуй. Выказваю сардэчную падзяку Зміцеру Санько, які дбайна апекаваўся мною, урэшце стаў рэдактарам гэтай кнігі, зычлівым і прынцыповым. А яшчэ я маю шчасце даўняга і дарагога мне сяброўства з паэтам Алесем Разанавым. Гэта дзякуючы яго маральнай і кожны раз матэрыяльнай падтрымцы пабачылі свет мае кнігі. У працы побач са мной была мая жонка Антаніна. Часта, пакідаючы тэрміновыя гаспадарчыя справы, я ездзіў па навакольных вёсках у пошуках самабытнага слова, песні, легенды і ніколі не чуў ад яе папрокаў, нараканняў.

**У апошні час з'яўляюцца водгукі на Вашы кнігі ў перыёдыцы. Нарысы пра Вас і Вашу творчасць з'явіліся ў цэнтральных газетах. Пра Вас пісалі „Новы час", „Сельская газета", „Звязда", „Краязнаўчая газета", „Наша слова", абласная газета „Наша трыбуна". Рэцэнзіі змясцілі ў „Полымі", „Родным слове" і г.д. Раскажыце, хто з навукоўцаў адгукнуўся.**

– Я ўдзячны вучоным-мовазнаўцам рэспублікі, якія напісалі рэцэнзіі на мае кнігі. Гэта Мікалай Даніловіч, Мікалай Крыўко, Павел Міхайлаў і Святлана Фацеева, гісторык і этнограф Сымон Барыс. Мяне вельмі ўсцешыла ўхвальнае слова пра маю працу паважанага Ніла Сымонавіча Гілевіча. Сардэчны дзякуй вам. Я напоўніцу пакарыстаўся вашымі слушнымі заўвагамі і парадамі. Усцешылі мяне і водгукі на кнігу „Дым з коміна". Я дзякую за добрыя словы Анатолю Вярцінскаму, Дануце Бічэль, Міхасю Тычыне, Міколу Пракаповічу, Алесю Каско, Анатолю Зэкаву, Уладзіміру Ягоўдзіку. Ніколі не забуду: шлях у літаратуру праклала мне незабыўная Ніна Мацяш. Гэта яна падрыхтавала вялікую падборку маіх абразкоў і змясціла іх у газеце „Мясцовы час". Вечная ёй памяць!

Дзякуй і Вам, спадар Сяргей, за тое, што Вы адклікаецеся шчырым словам на выхад кожнай маёй кнігі, падтрымліваеце мяне сваім аптымізмам, верай, што наша праца недарэмная.

**Мы, беларусы, шмат стагоддзяў адстойваем сваю родную мову, змагаемся за яе, трывожымся за яе. І сёння зноў нашу мову абражаюць, знішчаюць, яе мала дзе чуваць… Хаця мы жывем у незалежнай дзяржаве, якая называецца Рэспубліка Беларусь. Што Вы скажаце на гэты конт?**

– Балючае, вядома, пытанне. Яно трывожыць і мяне. Вядомы пісьменнік Янка Скрыган некалі сказаў: „Упаравень са словам Радзіма заўсёды стаіць мова. Без мовы не можа быць народа. Калі памірае мова, памірае народ, сходзіць з гістарычнай сцэны". Ірландскі вучоны Дэві пісаў: „Кожны народ павінен аберагаць сваю мову больш, чым граніцы, бо мова – галоўная яго абарона, куды больш моцная, чымся ўсе цытадэлі". Нядаўна пачуў: „Калі б на Беларусі не было зусім беларускай мовы, то яе трэба было б выдумаць..." Бо мова – найпершы паказчык адрознасці этнасу, нацыі, па мове вызначаюць граніцы. Быў неяк у Польшчы, наведаў не адну школу. Здаецца, польскай мове нічога не пагражае, але там усё навучанне скіравана на выхаванне павагі да гісторыі народа, да роднай мовы. Памятаю словы плаката: „Мы не гусі, мы сваю мову маем". Гэта ж адны гусі аднолькава гагочуць па ўсім свеце. У нас жа ўсяк стараюцца звузіць сферу ўжывання беларускай мовы. Звужаецца мова – духоўна бяднее чалавек. Слухаеш „русскоговорящего" беларуса і не пачуеш ніводнага яркага слова, якое б захацелася занатаваць. Спрэс шэрасць і ўбоства. Абыходзяцца ў размове некалькімі сотнямі агульнаўжывальных слоў. Няма як слухаць і дыктараў нашага тэлебачання. Словы чужой мовы нараджаюцца з цяжкасцю, бо моўны апарат беларусаў складваўся стагоддзямі, ён не падрыхтаваны для вымаўлення слоў рускіх, чужых.

Я баюся, я з асцярогай стаўлюся да чалавека, які пачынае з аднаго: „Я не люблю…" Усё вялікае на свеце, велічнае робіцца, ствараецца любоўю. Любоў пашырае веды. Раўнадушша, нянавісць – звужаюць. Што ўзяць з чалавека, які

заяўляе: „Я не люблю беларускай мовы!” Адно – шкадаваць, тым болей этнічнага беларуса. Я скончу свой адказ на Ваша пытанне мудрымі словамі Алеся Разанава: „Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор, і гэты твор – мова”.

**Скажыце, спадар Алесь, ці ёсць нейкія абярэгі, талісманы, якія прысутнічаюць у Вашым жыцці, прынцыпы, якіх Вы прытрымліваецеся?**

– Абярэгаў, талісманаў не маю. Не, прабачце, ёсць адзін, маю ў хаце каменную сякеру, якой сама меней чатыры тысячы год. Кажуць, яна аберагае дом ад злых сілаў. Наконт правілаў, прынцыпаў, якіх прытрымліваюся. Некалі прачытаў у І.Бехера: „Працуй, калі табе журботна, гэта адзіны сродак разагнаць журбу. Працуй, каб не ўпасці ў нуду: нішто не пазбаўляе ад панылай пустаты, як праца. Працуй, калі табе шанцуе: няма іншых лекаў ад галавакружэння”. Гэтак і стараюся рабіць.

**Жадаю Вам здароўя, поспехаў у працы, новых творчых адкрыццяў і здзяйсненняў. Што Вы хацелі б пажадаць нашым чытачам?**

– Дзякую за добрыя словы. Дзякую, што далі магчымасць выказацца. Жадаю нашым суайчыннікам жыць у згодзе са сваім сумленнем, адчуць радасць належнасці да нашага народа, любіць Айчыну, служыць ёй. Хацелася б звярнуцца да нераўнадушных людзей, каб яны таксама ўзяліся за вывучэнне свайго роднага кута. Каб яны запісвалі мясцовыя словы, прыказкі, прымаўкі, песні, паданні, легенды. А я гатовы падзяліцца з імі сваім вопытам працы. Я ўпэўнены, што ў іх усё атрымаецца. Галоўнае – любіць…

**Сяргей Чыгрын**

# *Рамяство – гэта традыцыя*

**Віктар Дудкевіч праславіўся як стваральнік-рэканструктар драўлянага ровара, але слова разьбяр у адносінах да Віктара Дудкевіча усё ж занадта вузкае. Спарад Віктар хутчэй мастак-штукар чым толькі рамесьнік, паколькі ён не толькі выразае фігуркі з дрэва, але пераасэнсоўвае на свой капыл увесь сьвет – што, па вялікім рахунку, і павінна быць асноўным заняткам кожнага мастака. Апрача разьбы ў Доме Рамёстваў горада Глыбокае, спадар Віктар малюе алеем канцэптуальныя карціны, стварае жартоўныя рысункі на аснове беларускіх прыказак, адраджае старадаўнія тэхнікі друку, але ў першую чаргу захапляецца рэканструкцыяй дзіцячых цацак і драўлянага посуду. Калі камусьці пашанцуе зайсьці ў глыбоцкі дом рамёстваў і трапіць у майстэрню спадара Віктара, таму будзе гарантаванае падарожжа ў своеасаблівы для ўсіх беларускіх мастакоў сьвет, які нечым перагукаецца са сьветам самага славутага нашага летуценьніка – Язэпа Драздовіча. З Віктарам Дудкевічам, браслаўчанінам па нараджэньні і глыбачанінам па прапісцы, пагутарыў Віталь Воранаў.**


Фота Магдаліны Петрук

Віктар Дудкевіч

**Віталь Воранаў: Спадар Віктар, калі Дарафей Фіёнік паспрабаваў адрадзіць на Падляшшы невялікую вытворчасьць валёнкаў, выявілася, што гэтае рамяство ў гэтым беларускім рэгіёне ў Польшчы ўжо амаль цалкам забытае. А ці жывыя яшчэ беларускія рамёствы ў самой Беларусі?**

**Віктар Дудкевіч**: Апрача вельмі пашыраных музычных і мастацкіх школаў, у Беларусі яшчэ існуе сетка дамоў рамёстваў. Дарэчы мы знаходзімся якраз у адным з найстарэйшых зь іх. У сьнежні мы будзе адзначаць 25-годзьдзе. У нашай установе працуе дзевяць майстроў, напрыклад ганчар, каваль, мастак па размалёўцы дываноў у стылі Язэпа Драздовіча, розныя адмыслоўцы па беларускай ляльцы, саломапляценьні, вышыўцы, лазапляценьні і іншых рамёствах. Дамы рамёстваў паўставалі з мэтай захаваньня і пашырэньня асноўных відаў рамёстваў. Калі некалькі гадоў назад я паспрабаваў знайсьці ў нашых ваколіцах бондара (майстра па вырабу бочак), мясцовыя гандляры на рынку сказалі мне, што на вялікі жаль апошні такі майстар ужо быў памёр. А тыя рамёствы, якія сталіся складовай часткай дома рамёстваў, дзякуй богу захаваліся. У кожнага майстра ёсьць свае вучні, якія прыходзяць да школы, або пасьля на дадатковыя заняткі. Асабіста ў мяне ёсьць шэсьць такіх вучняў, якія два разы ў тыдзень, на працягу дзьвюх гадзін займаюцца вывучэньнем разьбы па дрэву.

**А чым зарабляюць беларускія майстры апрача працы штатна-**

**га рамесьніка? Жыцьцё сапраўднага мастака паўсюль даволі складанае.**

– Дадатковы заробак прыносіць продаж сваіх прац. За сто пяцьдзесят тысячаў рублёў (прыкладна 15 даляраў) майстарскага падатку ў год, мастак мае права на неабмежаваны продаж сваіх вырабаў. Нашыя працы можна набыць у краме дома рамёстваў, а таксама падчас шматлікіх фальклёрных фэстаў і іншых афіцыйных мерапрыемстваў. Наша гільдыя езьдзіць на такія фэсты пад адной "шыльдай", але існуе таксама безьліч фэстаў на якія, пры жаданьні, можна езьдзіць у індывідуальным парадку. У дом рамёстваў таксама часта заглядаюць ураджэнцы Глыбокага і Глыбоччыны, якія прыводзяць да нас сваіх знаёмых з блізкага і далёкага замежжа, якія ахвотна набываюць арыгінальныя сувэніры. Неўзабаве, на плошчы, побач касьцёла, плянуецца адкрыцьцё новай кавярні. Там будзе таксама невялічкая крама-выстава з вырабамі глыбоцкіх майстроў.

**Што найбольш захапляе вас менавіта ў працы з дрэвам?**

– Напэўна гэта ніша, якую я знайшоў для сябе, а менавіта дзіцячыя, традыцыйныя цацкі. Нехта цікавіцца напрыклад адкуль пайшоў сьвет, а мяне цікавіць разьвіцьцё беларускіх народных цацак, якія як можна здагадацца звычайна вырабляліся з дрэва. Цацкі гэтыя мяняліся разам з разьвіцьцём тэхналёгіі.

**Здаецца, што цацка была зьявай даволі рэдкай. Нават у маім адносна забясьпечаным дзяцінстве ў мяне іх было толькі некалькі. Самай захапляльнай напэўна было кола, дакладней вобад ад кола, які трэба было ўводзіць у рух з дапамогай адмысловага рычагу з дроту. Наколькі папулярныя былі цацкі ў беларускай гісторыі?**

– Першыя цацкі былі паганскімі абярэгамі ад сполаху, суроку і падобнага. Дзяўчынкі гуляліся з лялькамі для спавіваньня. Яны былі зробленыя са зрыўкаў матар'ялу ці нейкіх іншых лахманоў. Больш дарослыя дзяўчынкі гуляліся з выразанай з дрэва формай, якая нагадвала немаўля. Былі таксама больш складаныя лялькі, якія разьнімаліся і маці паказвала дачцэ колькі дзіцяці трэба сыпаць у страўнічак крупаў, а колькі ліць туды вады. Усё гэта мела на мэце падтрыманьне традыцыяналісцкага ладу жыцьця, падрыхтаваньне дзяўчынкі да адказнай ролі маці, якая чакала яе ў будучыні.

**Эўрапейскім фэміністкам гэта наўрад ці спадабалася б.**

– Дзякуй богу да нас гэта пакуль не дайшло (сьмяецца). У традыцыйнай беларускай культуры ў дзяўчатах стараліся паглыбіць жаночыя якасьці, у хлапцох адпаведна – мужчынскія. Мой бацька мне апавядаў што хлопцы гуляліся з цацачнай зброяй, ці са шпулькай ад калаўроту, якая ў дзіцячых забавах уяўлялася возам. Калі шпулькувоз трохі мацней уціснуць у зямлю, яна рабіла за сабой каляіну. Папулярнымі былі коні-гайдалкі, хадулі-дыбы, а таксама беларускі бэйзбол – лапта. Усе гэтыя простыя і няпростыя цацкі стваралі цэлую своеасаблівую вобразнасьць-сьвет. Даўней цацкі мелі практычную, пазнаваўчую і выхаваўчую, а не толькі забаўляльную, як гэта бывае сёньня, функцыю.

**А які матар'ял пераважваў у вырабе беларускіх цацак? У крамах жа яны не прадаваліся і дзяцінства ў той час было вельмі кароткім. Часам даводзілася працаваць ужо з малых гадоў.**

– Цацкі былі вельмі простыя. Выраблялiся яны пераважна з гліны, саломы, матар'ялу, дрэва, пілавіньня, з усяго таго, што ў сялянаў было пад рукой. Але якраз іх простасьць і разьвівала дзіцячае ўяўленьне. Адной з такіх цацак зьяўляецца звычайны кіёк з прапелерам (апавядаючы пра цацку майстар бярэ яе ў рукі, раскручвае рукамі і пасылае ў кантраляванае паветраплаваньне і найпрасцейшая ў сьвеце цацка праз момант апынаецца раптам у маіх руках). Гэтая славянская цацка была акурат выяўленая пры раскопках Ноўгарада, а зьявілася на некалькі добрых стагодзьдзяў да зьяўленьня верталётаў! Цацкі павінны былі дзяцей не толькі забаўляць, але і інспіраваць на шматлікія адкрыцьці. Больш за тое, сам выраб цацак і абярэгаў меў рытуальны характар. Цацак для немаўлят нельга было вырабляць з дапамогай мэталаў, нельга было ўжываць іголкі, ці нечага падобнага. Пры вырабе часта ўжываліся матар'ялы, якія належалі да бацькоў і дзядоў, дзеля таго каб надаць рэчы аберагальную моц продкаў.

**Забава, выхаваньне, разьвіцьцё цела і духа, а ці былі яшчэ нейкія іншыя функцыі ў даўніх беларускіх цацак?**

– Былі яшчэ вырабы, якія мелі больш дэкаратыўна-мастацкі характар. Напрыклад саламяныя павукі, карэц (драўляная чаша з якой пілі) з выразаным знакам Перуна, або іншыя прылады штодзённага жыцьця, упрыгожаныя рознымі ўзорамі, тыпу салярных знакаў.

**Маеце на ўвазе свастыкі?**

– Салярныя знакі гэта вельмі старадаўнія сымбалі. Свастыка якая круціцца ў левы бок сымбалізуе жаночы пачатак, тая што ў правы – мужчынскі. Салярныя знакі былі надзвычай пашыраныя на ўзорах беларускіх ручнікоў, ды на іншых дэкаратыўных вырабах беларусаў і не толькі. Аснова кожнага рамяства гэта традыцыя.

**Дарэчы, калі гаварыць пра рамёствы, то ў майго дзеда была свая кузьня ў вёсцы Вудзела, пад Глыбокім. А што калі б там стварыць музэй беларускай традыцыйнай цацкі?**

– А чаму б і не? Вудзела ляжыць на турыстычнай трасе Глыбокае – Мосар. Думаю, у такое месца з цікавасьцю завіталі б не толькі дзеці, але і іх бацькі.

**Віталь Воранаў**

# Рысаўнік роднага Падляшша

**Плён ягоных апошніх гадоў – тысячы рысункаў. Выдаў паўсотні папак – ад «1200-годдзе горада Лаймена», «Цехановец», «Сямятычы», «Драгічынскага дыяцэзія», «Беласток і ваколіцы», «Беласток даўней і сёння», «Цэрквы Беластока», «Беласток», «Медыцынская акадэмія – 50-годдзе», «Кермусы каля Тыкоціна», «Сувалкі», «Супрасль», «Аўгустаў», «Ломжа», «Каралеўскія дубы – Белавежа», «Мельнік і ваколіцы», «Харошча ў рысунках», «Палац Браніцкіх у Беластоку», «Універсітэт у Беластоку». Выдаў альбом «Старое ёсць прыгожае», дзе змешчаны каля 250 рысункаў архітэктуры Беласточчыны – плён амаль шасцігадовай працы над гэтай кнігай. Выдаў таксама каля 200 рысункаў XIX-вечнай архітэктуры Чыкага. Цяпер займаецца амаль выключна рысаваннем, праектуе графічныя знакі, вокладкі кніг, плакаты, ілюстрацыі да кніг – асабліва любіць ілюстраваць паэзію**

Называюць яго адным з найбольшых графікаў – дакументатараў Падляшскай зямлі, сейсмографам асабліва ўражлівым на беластоцкі краявід, з якім адчувае цалкам інтымную сувязь. Багаты архіў ягоных графік, выкананых тушшу і пяром, з'яўляецца адным з найбольшых збораў мастацкай дакументацыі архітэктуры і краявіду Падляшша. Крытыкі адзначаюць, што гэта феномен не толькі ў краёвым маштабе. Шмат аб'ектаў, якія замацаваў сваім пяром на паперы, ужо не існуе. З захаплення драўлянай архітэктурай, архітэктурай вёскі, пасёлкаў і мястэчак, роднай прыродай, яго графікі паказваюць мінулае, цяперашні час, яго прыгажосць і дух полікультурнасці. А „Architektura i Przyroda Województwa Podlaskiego" з'яўляецца каронай ягонай больш за 30-гадовай творчай працы звязанай з Падляшшам – атрымаў за яе ўзнагароду Залатога Грыфа 2010 года.

– Найбольш чула ўспамінаю працу ў «Ніве», перш за ўсё дзякуючы якой я зацікавіўся тэмамі, і пачаў сваю прыгоду з рысункам, увекавечваючым былое, – сказаў на адкрыцці выставы сваіх прац у бельскай ратушы (працавала яна да канца сакавіка). А заўсёды важу на выставы мамін партрэт. Запрапанаваў я быў яе нарысаваць, а яна кажа: «Ты што, я старая, брыдкая. Ты малюй маладых, прыгожых. Ты што ўсё тое старое малюеш!» – Я ёй адказаў: «Мама, калісь толькі вялікія паны ды пані заказвалі свае партрэты. А ты ж шляхцянка! А твая кожная маршчынка – адна прыгажосць!».

Уладзіслаў Петрук нарадзіўся ў 1952 годзе ў Наройках недалёка Драгічына на Бугу. Мастацкую адукацыю пачаў у Мастацкім ліцэі ў Супраслі, заканчваючы яго са спецыялізацыяй у галіне мастацкага ткацтва. Быў стыпендыятам Міністэрства культуры і мастацтваў: ад 1973 па 1979 год вучыўся ў Вышэйшай школе графічнага дызайну і графікі кнігі ў Лейпцыгу. Атрымаў дыплом па спецыяльнасці кніжнай графікі. У той час у творчасці выяўляў асаблівую цікавасць да плаката (здабыў шматлікія ўзнагароды і прызы).

Ужо падчас вучобы ягоныя графікі трапілі на выставы. Былі прадстаўлены на персанальных выставах, між іншым, у Лейпцыгу, Ростаку, Берліне, Лаймене, Врыцен каля Франкфурта-на-Одэры, ва ўніверсітэце Віадрына ў Франкфурце, Чыкага (2003) і Беластоку (1981, 1999, 2006 і 2011). Пасля заканчэння школы ён вярнуўся на



**Уладзіслаў Петрук на адкрыцці выставы сваіх прац у бельскай ратушы**

радзіму – на працягу наступных 20 гадоў сумяшчаў абавязкі на працы і запал да графікі. Быў графічным рэдактарам тыднёвіка «Ніва» і «Параннага кур'ера», кіраўніком некалькіх выдавецтваў, выдавецкага аддзела Ваяводскага дома культуры, выдавецтва Беластоцкага ўніверсітэта, быў куратарам Рэгіянальнага музея ў Сямятычах. З 2006 года мастак (жыў 26 гадоў у Беластоку і да гэтага часу асацыяваўся з ім) жыве і працуе ў Каралёвым Мосце, вёсцы, маляўніча распаложанай на краі Кнышынскай пушчы.

– Адкуль узялася ў мяне тая прага рысаваць? З пачуцця мінаючага часу. Я бачыў, як прападае старая архітэктура. Хвалявала мяне, што заязджаю ў нейкае месца, а тут папрападалі аб'екты з майго дзяцінства, юнацтва. Я падумаў: нарысую гэта, хоць яно так застанецца. Так яно і пачалося. Мушу прызнацца з задавальненнем, што я зрабіў кавалак добрай работы! У час лічбавай фатаграфіі рысую пяром. Знайшоў тут нішу і я шчаслівы. Над адным рысункам працую тры-чатыры дні. А пяро ўзялося ад таго, што не патрабуе шмат месца, што асабліва турбавала мяне калі я жыў у блоку. Цяпер у мяне дома ў вёсцы ёсць аграмадныя прэсы, на якіх магу адціскаць лінагравюры і іншыя графічныя працы. Сёлета здабыў я стыпендыю на выкананне лінагравюр архітэктуры Беластока. А Бельску-Падляшскаму я ўдзячны асабліва – у найцяжэйшы для мяне перыяд ўратаваў мяне ад... галоднай смерці, – смяецца мастак, – прапануючы падрыхтаваць багатую графічную папку з каштоўнасцямі старадаўняга Бельска і Бельшчыны.

**Міраслава Кастанчук**



# *Радкі з лістоў, адгалоскі*

## *Tego w Tarnopolu jeszcze nie było*

*8 marca br. w pięknej świetlicy w Tarnopolu (powiat hajnowski) odbyło się spotkanie autorskie z dziewięcioma osobami, które piszą wiersze i opowiadania po polsku i białorusku. Tarnopol to cicha i spokojna wieś otoczona sosnowymi lasami, która liczy 123 mieszkańców.*

*Do grona siedmiu poetów z gminy Narewka (Wiera Radziwoniuk i Aleksander Radziwoniuk z Michnówki, Tadeusz Kuncewicz z Eliaszuk, Jan Ciełuszecki i Konstanty Ciełuszecki z Lewkowa Nowego, Halina Birycka z Planty i Ala Jaświłowicz z Siemianówki) dołączyły dwie związane z Hajnowszczyzną znane poetki z Białegostoku – Mira Łuksza (w dzieciństwie mieszkała we wsi Borowe i uczęszczała do szkoły podstawowej w Siemianówce) i Walentyna Niedźwiedź (ma ona swój dom w Siemieniakowszczyźnie). Tym razem literaci czytali wiersze poświęcone kobietom. Dużo wierszy. I wszystkim one się spodobały. Przyjmowali je ciepło i serdecznie. Panował miły nastrój. Mira Łuksza przeczytała również niektóre wiersze nieżyjącego już poety z Tarnopola – Włodzimierza Hajduka (autora białoruskich zbiorków poetyckich „Rakita", „Błakitny wyraj", „Pach ajernaha chleba", „Połymia rodnaje" i „Dziwasił", wydanych przez Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża").*

*Na spotkanie przybyli mieszkańcy, w tym najwięcej pań, z Tarnopola, z Nowej Łuki i ze Słobódki. Zorganizowali go Helena Rejent, dyrektorka Gminnego Ośrodka Kultury w Narewce oraz Stanisław Sadowski (radny) i Urszula Hajduk (sołtys Tarnopola). Były kwiaty i laurki dla wszystkich pań oraz słodki poczęstunek.*

*W świetlicy przygotowano także wystawę rękodzieła artystycznego „Igłą malowane" Haliny Biryckiej – poetki i hafciarki z Planty. Uczestnicy spotkania obejrzeli piękne wyszywane ręczniki i ikony. Niektóre z nich wkrótce będą wysłane na konkurs pn. „Haft i koronka", który od kilku lat organizuje Hajnowski Dom Kultury.*

*Było to drugie w tym roku spotkanie autorskie w gminie Narewka (pierwsze odbyło się 30 stycznia w świetlicy w Starym Masiewie). Planowane są następne, m. in. w Olchówce. Mieszkańcy Babiej Góry, Guszczewiny, Lewkowa Starego, Lewkowa Nowego, Mikłaszewa, Michnówki, Narewki, Ochrym, Planty, Siemianówki i innych wsi bardzo chętnie przychodzą na imprezy kulturalno-rozrywkowe.*

*Jan Ciełuszecki, Lewkowo Nowe*

## *Szanowna redakcjo,*

*Z zaciekawieniem przejrzałem zamieszczone w sieci archiwum Państwa pisma. Od razu powróciły dawne, wakacyjne wspomnienia.*

*Otóż kiedyś jako mieszkańcy Wrocławia podczas wakacyjnych wędrówek zapragnęliśmy zahaczyć o Ścianę Wschodnią. Wybór padł na Tatarski Szlak. Z Hajnówki PKP do końca, potem lasem w stronę Kruszynian.*

*Po drodze w jednej z wiosek wstąpiliśmy do baru z tatarskimi daniami. Zamknięty. Obok dochodziły rozmowy po białorusku. Widząc nas, pani przerwała i rzekła po polsku: „Zaraz otwieram", po czym przeszła na białoruski. Okazało się, iż w tym dniu było akurat prawosławne święto.*

*Poczuliśmy się niczym w bajce. Był schyłek PRL-u, o mniejszościach cicho, o polskich Białorusinach – milczenie, zaś my znaleźliśmy się w bajkowej krainie.*

*Za sprawą lektury „Czasopisu" odżyły miłe wspomnienia.*

*W związku z tym jako próbujący od jakiegoś czasu wstąpić na ścieżkę zmierzającą w stronę Parnasu, postanowiłem wzbogacić przygotowywany cykl o „Pocztówkę z Hajnówki", którą przesyłam Państwu jako propozycję rozważenia do druku w Cz. Być może znajdzie uznanie na zasadzie wyjątku np. w rubryce – listy od czytelników.*

*Z wyrazami szacunku*

*Dariusz Bednarczyk*

**Dariusz Bednarczyk**

## Pocztówka z Hajnówki

Na bramce Puszczy
wąskotorowa
Leśna Prawa dopływ Bugu
osady strażnika leśnego.
Hej, chłopcy Bałachowcy!
z różnych stron według dywizji
której żołnierzem swojska „Czasownia".
Było nie było pod zaborem i wojny światowe
w końcu przedłużeniem linii
na Bielsk Kleszczele i Białystok
miły początek szlaku niebieskiego.

*Dariusz Jacek Bednarczyk ur. w Jeleniej Górze. Absolwent Wydziału Prawa i Administracji Uniwersytetu Wrocławskiego. Mgr administracji. Parokrotnie wyróżniony w ogólnopolskich konkursach literackich. Próby publikacji zasadniczo od 2010 roku. Dotychchczasowe publikacje: Fabularie, Poezja Dzisiaj, Migotania, Kultura Connect Magazine (Australia), Inter-, Znaj, Menażeria, Częstochowski Magazyn Literacki Galeria, Dworzec Wschodni, Protokół Kulturalny, Jutrzenka (Pismo Polaków w Mołdawii), Kwartalnik Irkucki, Akant, Nestor, Ex Libris 43 bis, Kozirynek. Tłumaczony na angielski i rosyjski.*

### *Плёткі старой цёткі*

Прачытала ў апошнім Часопісе, што будзе прэзентацыя кніжкі пра шаптух. Узяла падрыхтавалася, паехала на тую прэзентацыю, прыязджаю, заходжу ў хату, нікога няма. Праз пятнаццаць хвілін аднекуль вяртаецца баба Ганна. Кажу ёй:

– Нешта мала людзей прыйшло на тваю прэзентацыю.

– Цьфу на цябе, – кажа яна, – якую шчэ немач?

– Хіба ты не ведаеш, пра ўласную прэзентацыю? – Тут у пацверджанне сваіх словаў вымаю з-пад пахі Часопіс, прымружваюся і пачынаю чытаць: – Шэптам, пятніца, 18.00, 13 лютага, Бе-ла-сток...

– Ну бачыш, а ты ў Рутку прыперлася, – зарагатала баба Ганна.

– Во дурная, кажу, не дачытала! Убачыла твой здымак і гайда... да цябе... Дык а чаго ты яшчэ тут, калі прэзентацыя ў Беластоку?..

– Не дуры мне галавы. Ваду загаварваць будзеш?

– Буду, канешне, хіба ж я б толькі на прэзентацыю целяпалася?

Вяртаючыся аўтобусам у Грэдэлі, я дапёрла, што гэта была за прэзентацыя толькі тады, калі папіла зашаптанай вадзічкі. Проста калі першы раз той Часопіс чытала, то не мела пад рукой акуляраў, і чамусьці падумала што Vitalem Voranauem гэта нейкія зёлкі на лаціне, або, на худы канец, нейкі загранічны суплемент дыеты...

І чаго я ў тую Рутку толькі папёрлася? Ваду ж то і сама загаварыць магла, з хаты не выходзячы.

*Гэля з Грэдэляў*



**Fotografie Piotra Świderskiego są jak chwila wytchnienia. Autor zabiera nas w podróż po podlaskich bezdrożach, po których on sam wędruje bez pośpiechu i popędzania. Wielokrotnie powraca do tych samych, dobrze znanych mu miejsc i krajobrazów, ulubionych świątków i krzyży, aby obok nich posiedzieć, odpocząć, pomedytować lub po prostu – poobserwować. Tematem jego zdjęć są najczęściej napotkani ludzie, znajomi i nieznajomi, zastani w domu, w świątyni, na ulicy**...



**Сцяпан Міско нарадзіўся 18 студзеня 1930 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Вучыўся ў мясцовай пачатковай школе, пасля скончыў беларускую школу № 1 г. Слоніма і Мінскі інстытут замежных моў. Пра сваё маленства Сцяпан Міско згадаў у сваім артыкуле «Вёска Чамяры», які быў апублікаваны ў 1968 годзе ў часопісе «Полымя»: „Маленства прайшло ў панскай Польшчы. Мы не разумелі тады, што такое**... (dalej w następnym numerze)


# Czasopis

Nr indeksu 355038, ISSN 1230-1876.
**Wydawca**: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich.
**Adres redakcji**:
Białystok, ul. Lipowa 4/221.
**Adres do korespondencji**:
„Czasopis”, 15-001 Białystok, skr. p. 262. **E-mail**: redakcja@czasopis.pl
http://czasopis.pl
Tel. (85) 653 79 66

**Redaktor naczelny**: Jerzy Chmielewski, tel. 502 661 316. **Zespół redakcyjny**: Wiesław Choruży, Helena Kozłowska-Głogowska, Sławomir Iwaniuk, Magdalena Pietruk (sekretarz redakcji), Tomasz Sulima, Jerzy Sulżyk.
**Stali współpracownicy**: Piotr Bajko (Białowieża), Joanna Czaban (Krynki), Siarhiej Czyhryn (Słonim), Tamara Bołdak-Janowska (Olsztyn), Agnieszka Goral (Lublin), Mirosława Łuksza, Janusz Korbel (Białowieża), Jan Maksymiuk (Praga), Mateusz Styrczula, Dorota Wysocka, Ewa Zwierzyńska.
**Druk**: Orthdruk, Białystok.






**Prenumerata**: Odpowiednio do liczby zamawianych egzemplarzy i okresu prenumeraty należy wpłacić wielokrotność 4 zł na rachunek: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich: Bank PEKAO S.A. Białystok 30 1240 5211 1111 0000 4928 9343.

Беларускі грамадска-культурны часопіс, прысвечаны пытанням сучаснасці, гісторыі, літаратуры і мастацтва, месца чалавека ў свеце. Форум думкі беларусаў і ўсіх тых, каму блізкая беларуская тэматыка. Пазіцыі аўтараў тэкстаў не заўсёды адпавядаюць пазіцыям рэдакцыі. Не публікуюцца матэрыялы, якія прапагандуюць камуна-фашызм, расізм, нацыянальную варожасць.
Artykuły i listy publikowane są – o ile autor nie życzy sobie inaczej – w języku oryginału: po polsku lub białorusku. Redakcja zastrzega sobie prawo do skrótów, zmian tytułów i redagowania nadesłanych tekstów.
Materiałów nie zamówionych redakcja nie zwraca.
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
Numer złożono 29 marca 2015.